

# Ніва



ГОД I № 2 БЕЛАСТОК, 11 САКАВІКА 1956 г. ЦАНА 60 гр.

МІКОЛА ЗАСІМ

## Дачка Радзімы

*Ты была падлеткам,*
*Нібы матылёчак.*
*Рваць-бы табе кветкі*
*Ды звіваць вяночак,*

*Ды пускаць па Леснай,*
*Каб плылі далёка,*
*Мо' хлапчына дзесьці*
*Іх натрапіць вокам.*

*Ды не тое доля*
*Нам падрыхтавала:*
*Наляцела раптам*
*Дзікая навала.*

*Загулі машыны*
*З свастыкай праклятай,*
*Запылалі нівы,*
*Запылалі хаты.*

*Цяжкая гадзіна*
*На твой лёс дзявочы*
*Выпала дзяўчына,*
*Чэрвеньскаю ноччу.*

*Ды не пахіліла*
*Голаў ты ў пакоры,*
*Па лясах, балотах*
*Гаравала гора.*

*Не ў сяле, не ў хаце*
*Ў будане з накатам,*
*Ў групе Хрыстафора,*
*У руках з аўтаматам.*

*Біла, не давала*
*Ты фашыстам спуску,*
*Помсціла за родны*
*Край свой беларускі.*

*Помсціла штодзённа*
*І жалю не знала.*
*Да сваіх, як маці,*
*Сэрца прыхіляла.*

*Вынесла прабітым*
*З бою камандзіра,*
*Над ім наглуміцца*
*Не дала вампірам.*

*Дахлаў, Белавежа,*
*Пераправа, Спорау...*
*Месц няма і ліку,*
*Дзе лячыла хворых.*

*...Ордэны ўквяцілі*
*Твае зараз грудзі.*
*Пра цябе злажылі*
*Нават песні людзі.*

*Ты цяпер за працай,*
*Слаўная жанчына,*
*Новыя палацы*
*Строіш для Айчыны.*

*І складаю песню*
*Я табе за тое,*
*Што прайшла ты з чэсцю*
*Жыццё маладое.*

*Што ў баях крывавых,*
*Працай для Айчыны,*
*Здабыла ты славу,*
*Простая жанчына.*



*Прадзільшчыца Баваўнянага Камбіната ў Фастах — перадавік працы, Ядвіга Чэрвінская пры сваёй машыне.*
*Фото — Лей*

## ЯНЫ ДАБ'ЮЦЦА СВАЙГО...

Ці вы былі ля крыніцы? Вада, выдабываючыся з-пад паверхні зямлі, адразу ўзлятае на некаторы ўзровень, уверх, а потым ападае і усё гэта складаецца на тое, што мы здалёк ужо чуем шум крыніцы.

Такое параўнанне ўспомнілася мне, калі я набліжалася да Баваўнянага Камбіната ў Фастах. А калі вышаўшы за вароты, пасля маёй пабыўкі ў ім, я яшчэ раз азірнулася назад, на магутную пабудову 6-гадовага плана, мне здавалася, што гэты гул — гэта ў адзін голас сабраныя словы работніц і работнікаў — маладых дзяўчат і хлапцоў, якія быццам крынічны ключ уліваюць новыя, свежыя сілы ў вялікую справу — выкананне задач 5-гадовага плана.

Многа можна было-б гаварыць гэтак аб асабістых уражаннях, бо шмат іх ёсць і шмат родзіцца і пралятае праз галаву.

Аднак лепш будзе, калі пазнаёмлю Вас бліжэй з жыццём Камбіната ў Фастах.

Экіпаж Камбіната — пераважна моладзь і пераважна жанчыны. Сярод жанчын рэдка сустрэнеш пажылую. Дзе не глянь — усё маладыя дзяўчаты! Калі я хацела даведацца, як сярод гэтакіх маладых чуюцца старэйшыя, мне трэба было ўперш пашукаць іх. І яны добра чуюцца. Моладасць і на іх пераходзіць. — Атмасферу ўласцівага соцыялістычнага падыходу да працы, да прадукцыі, ствараe ў нас моладзь — гаворыць старшыня прызаводскай ячэйкі ЗМП — Анна Суяк.

— Моладзь у нас поўна энергіі і энтузіязму да працы. Яна належна разумее сваю адказнасць перад партыяй, урадам і народам. Моладзь — члены ЗМП — першыя з'явіліся ініцыятарамі соцыялістычнага спаборніцтва на нашым заводзе і распаўсюдзілі яго на ўвесь экіпаж.

Моладзь Камбіната ў Фастах высока цэніць ролю калектыва ў жыцці і працы. Дзеля таго, каб лепш працаваць, яны сарганізавалі брыгаду імя Г. Руткоўскага, Г. Савіцкай і іншыя. Вось словы адной са шматлікіх дэкларацый, якія складаліся з просьбай прыняць данага працаўніка ў тую, ці іншую брыгаду: „у брыгадзе абяцаю працаваць сумленна, што прычыніцца да росту ўзроўню нашай прадукцыі, навучаць слабейшых сяброў, змагацца за высокі ідэалагічны ўзровень нашага экіпажа, не адрывацца без патрэбы ад працы".

Брыгада — гэта згодны калектыў, дзе няма Я, а толькі МЫ.

Вось тав. Рэпэта гутарыць з намі. Праз шум машын, я чую яе звонкі, малады, станоўчы голас: „Калі трэба, памагаем у працы адна другой".

Нельга траціць дарма часу — заяўляе нам перадавік працы, Камінская. Яе дэвіз: абавязацельствы нашы мусім выканаць!

А яны трудныя! Трэба да максімум выкарыстаць кожны кусочак ніткі. Ды прадзільшчыцы станоўчы! Яны даб'юцца свайго!

Першае ў дзеях завода абавязацельства індывідуальнае ўзяла тав. Чэрвінская. Яна забавязалася даць у месяц 100 клг. панадпланавой пражы.

Сярод старэйшых таксама ёсць заслужаныя работнікі, якія побач з энергіяй маюць вялікі вопыт і з'яўляюцца прыкладам для моладзі. Такія прозвішчы як: тав. Лыкоўскі ці Хмелеўскі, акружае агульная пашана.

Многа жанчын, якія працуюць у камбінаце ў Фастах прышлі сюды з вёскі. Ад шырокіх палёў, зялёных ніў прышлі да машын.

Прыглядаючыся да гэтага супрацоўніцтва жанчыны з машынай, здаецца, што яны сардэчныя сяброўкі добра разумеюць і шануюць адна другую і дапамагаюць адна другой.

ВЕРА ЛЕУЧУК

ШТОТЫДНЕВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА — КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА



НАВІНЫ НАВУКІ І ТЭХНІКІ

# ЛЕДАКОЛ З АТАМНАЙ УСТАНОЎКАЙ

Дасягнутыя ў Савецкім Саюзе поспехі ў развіцці ядзернай фізікі, радыёхіміі, аўтаматыкі, тэлемеханікі, электронікі і іншых галін навукі і тэхнікі дазволілі шырока разгарнуць работы па выкарыстанню атамнай энергіі ў мірных мэтах. У нашай краіне ўжо накоплен вялікі вопыт у галіне выкарыстання энергетычных атамных установак, пабудована і звыш паўтара года паспяхова дзейнічае першая ў свеце атамная электрастанцыя.

Усё гэта дае магчымасць яшчэ больш разшырыць у шостай пяцігодцы выкарыстанне атамнай энергіі ў мірных мэтах. Распрацаваны Цэнтральным Камітэтам партыі праект Дырэктыў XX з'езда КПСС прадугледжвае пабудаваць у 1956—1960 гадах атамныя электрастанцыі агульнай магутнасцю ў 2—2,5 мільёна кіловат, разгарнуць работы па стварэнню атамных сілавых установак для транспартных мэт.

Будзе пабудаван ледакол з атамным рухавіком. Савецкія вучоныя і канструктары - суднабудаўнікі ўжо распрацавалі тэхнічны праект такога карабля, прызначанага для работы ў Арктыцы. Гэта будзе карабель новага тыпу, які дазволіць змяніць тактыку лядовага плавання, падоўжыць тэрміны навігацыі ў поўночных морах, асвоіць для суднаходства высокашырынныя трасы, расшырыць фронт навуковых даследаванняў у Цэнтральным палярным басейне. Збываецца прадбачанне вядомага рускага мораплавацеля С. О. Макарава, які марыў дасягнуць Поўночнага полюса на ледаколе.

Выкарыстанне атамнай энергіі дасць ледаколу рад важных пераваг у параўнанні з ледаколамі, у топках якіх спальваецца вугаль або нафта, а таксама з ледаколамі, якія прыводзяцца ў дзеянне дызельнымі ўстаноўкамі. Калі ўявіць сабе ледакол такіх-жа памераў, які працуе на звычайным паліве, то ледакол з атамнай сілавой устаноўкай будзе перавышаць яго па працягласці плавання без заходу ў порты для бункероўкі ў дзесяць — дванаццаць разоў, а па магутнасці — больш чым у паўтара раза.

На звычайных ледаколах да 30 працэнтаў водазмяшчэння судна выкарыстоўваецца пад запасы паліва, якія вылічваюцца тысячамі тон. На ледаколах савецкага арктычнага флоту, напрыклад такія запасы дасягаюць трох тысяч тон на адным судне. Сутачны-ж расход яго перавышае сто тон. Такім чынам, ледаколы пазбаўлены магчымасці адыходзіць далёка ад портаў на працяглы час.

На ледаколе з атамнай устаноўкай сутачны расход «гаручага» — урана вылічваецца грамамі. Таму раён плавання такога ледакола становіцца практычна неабмежаваным.

Канструктары атрымліваюць магчымасць выкарыстаць тую частку водазмяшчэння карабля, якая адводзіцца для захоўвання паліва, на павышэнне магутнасці сілавой устаноўкі і павелічэнне трываласці корпуса. Такі ледакол зможа пракладваць шлях у цяжкіх арктычных ільдах, непраходных для сучасных ледаколаў.

Новы ледакол будзе мець магутнасць галоўных рухавікоў у 44 тысячы конскіх сіл. Яго водазмяшчэнне — 16 тысяч тон. Запасы прымаемыя на борт карабля, дазволяць яму не заходзіць у порты на працягу года. На караблі ствараюцца ўсе ўмовы для плённай працы, культурнага адпачынку каманды. Маракі размесцяцца ў аднамесных і двумесных каютах, дзе прадугледжваецца кандыцыянаванне паветра і люмінесцентнае асвятленне. Памяшканні судна абсталёўваюцца зручнай мэбляй На караблі — кают-кампанія, салоны, клуб, кіноўстаноўка, бібліятэка, чытальня, медыцынскія кабінеты, аснашчаныя сучаснай лячэбна-прафілактычнай апаратурай.

Асабовы склад карабля надзейна ахаван ад шкодных радыёактыўных выпраменьванняў, узнікаючых у атамнай устаноўцы. Кіраванне ёю ажыццяўляецца дыстанцыйна — пры дапамозе сродкаў аўтаматыкі Аўтаматыка і тэлемеханіка значна аблягчаюць працу каманды. Качагараў тут заменяюць апаратары, працуючыя ля пульта кіравання.

Ледакол зможа працаваць у суровых умовах Арктыкі, дзе метэаралагічная абстаноўка выключна складаная. Яму прыдзецца пракладваць шлях у туманы і снегапады, у змроку палярнай ночы. Ён аснашчаецца сучаснымі навігацыйнымі і радыёлакацыйнымі прыборамі, якія забяспечваюць бяспеку плавання і надзейную сувязь з суднамі каравана, праводзімага ім у ільдах. Для лядовай разведкі на борце ледакола будуць знаходзіцца два верталёты. Кіраванне караблём максімальна аўтаматызавана. Яно ажыццяўляецца капітанам з верхняга масціка або з хадавой рубкі.

На адным з суднабудаўнічых заводаў нашай краіны цяпер вядзецца падрыхтоўка да будаўніцтва новага карабля — першага ледакола з атамнай устаноўкай.

З «Праўды»
Ан. ТРЫФАНАЎ



# ПАРАДЫ гаспадарам

У перыяд падрыхтоўкі да сяўбы кукурузы, застаецца вельмі важным абмежаваны час паміж абмалотам і высевам зярнят (5—10 дзён), таму што абмалочваць кукурузу загадзя нельга, з прычыны рызыка папсуцця зярнят. Апрача гэтага вынікі аналізу зярнят, праведзенага кантрольна - насеннай лабараторыяй, часта ўжо не будуць адпавядаць фактычнай якасці зярнят з той прычыны, што толькі для правядзення аналізу па стандартнаму метаду патрабуецца да 7 сутак.

Доследы навуковага супрацоўніка Усесаюзнага Навукова - Доследчага Інстытута кормаў, М. А. Філімонава, праведзеныя ў 1955 годзе, паказалі, што можна значна прыспяшыць акрэсленне ўсходжасці зярнят. Распрацаваны ім метад заключаецца ў наступным:

Адлічваюць ад абразцоў 4 пробы зярнят (па 100 зярнят ў кожнай пробе), каторыя заліваюць вадою, папярэдне нагрэтай да тэмпературы 40 градусаў і на працяг двух гадзін замочваюць вадою, падтрымліваючы яе тэмпературу ў межах 38 — 40 градусаў. Цераз 2 гадзіны ў зярнят зрэзваюць вострай брытвай або лязам бяспечнай брытвы кончыкі зародкаў.



Злева зубападобная кукуруза, справа — крамяністая. Угары — ад зародкавага боку, унізе — ад боку, супроцьлеглага зародку. Лініяй паказаны месцы зрэзвання зародка. Робяць гэта так: насенне кукурузы кладуць на кусок кардону, шчыльнай паперы, роўнай фанеры на дошчачку зародкавым бокам уніз; прыціскаючы ўказальным пальцам левай рукі, а правай робяць вертыкальны зрэз, кончыка зародка, не зрэзваючы абалонкі сумежнай з зародкам. Потым здзіраюць абалонку з усяго зародка і зярняты зноў заліваюць свежай, цёплай вадою, мочачы іх на працязе 4 гадз. пры тэмпературы 38—40 градусаў. Пасля замочвання ваду адліваюць, а зярняты размяшчаюць у раслінна - гадаўляных (чарках або блюдзечках) зародкамі ўгору на моцна вільготнай фільтравальнай паперы, складзенай у некалькі слаявін.

Зярняты можна размяшчаць зародкамі ўгору таксама на паверхні нармальна вільготнага пяску. Раслінна - гадоўлянае памяшканне ад верху прыкрываюць дошкамі, але не вельмі шчыльна, каб даць доступ для паветра.

Насенне прарошчваюць пры тэмпературы 35—38 градусаў цяпла на працязе 16 — 17 гадз. не дапускаючы да лішкі вільготнасці, або перасыхання.

Пасля такога прарошчвання да ўсходжых зярнят залічваюцца яшчэ і тыя, якія маюць вілавочныя, буйныя карэньчыкі і сцяблінкі (без нейкіх прыкмет гніцця) або бачаная сцяблінка, а замест карэньчыка — прыкметнае ўздуццё, паўстаўшае ў выніку надмернага зрэзання зародка.

Насенні аб паніжанай энергіі прарастання маюць вырастаючы карэньчык і вілавочную, але не прарослую сцяблінку (без прыкмет гніцця).

Прыкметай нізкай якасці зерняў пасля прарошчвання з'яўляецца таксама кіславата-непрыемны пах, асабліва заўважальны пасля ўскрыцця дошкаў раслінна - гадаўляных памешканняў.

Вылічэнне працэнта ўсходжання насення кукурузы пры такім метадзе праводзіцца звычайным парадкам; як сярэдняя арыфметычная вынікаў прарошчвання чатырох проб. У выпадку неабходнасці лік проб можна скараціць да двух.




Першая ноч была сырая пасля дажджу і, вельмі дарэчы, цёмная. Праз краты на вокнах нашага лагера было чуваць, як безупынна сакаталі конікі над мокрымі бабкамі жыта ля брукаванай дарогі сумна шумелі бярозы.

Лагер — звычайны дом, высока абгароджаны калючым дротам, стаяў на водшыбе завадскога пасёлка Нойштадт. Вахманы жылі ў наступным доме. Па некалькі разоў на ноч яны прыходзілі правяраць наш сон, не цалкам давяраючы дратам, завале на дзвярах і кратам.

Над заводам у хмарнае неба ўздымаўся магутны комін. Няспынны і чорны подых яго здаваўся мне дыханнем нашых збалелых, замучаных працай грудзей. Мы ненавідзелі ўсё тут — і краты на вокнах, і нашых канвойных, і вечны дым, і ўласніка завода Кумбіра з усёй яго пузатай К°.

Дрыжачымі ад хвалявання рукамі апоўначы мы пааддзіралі з гваздоў, паразгіналі іржавыя штабы кратаў... прапаўзлі пад дратамі ў зялёны і ресны бульбянік...

Не ўсе, а толькі ўтрох. З трыццаці нашых сяброў большасць спала, а хто прачнуўся, пакуль мы распраўляліся з жалезам, той ці маўчаў, ці жадаў нам шчаслівай дарогі, ці ў голас баяўся...

Наіўна асцярожныя, мы перайшлі дарогу задам, як мядзведзі, а потым павярнуліся на ўсход. Шарахцелі іржышчам, брылі па свежых ролях, па моры соннага калосся ярыны. Ішлі шпарка, устрымліваючыся, каб не бегчы, прапускалі праз пальцы і зрывалі вільготныя пшанічныя каласы і нават ціха, гулліва іржалі...

З таго часу мы сталі начнымі людзьмі.

Зоркі вялі нас на ўсход. Вясковыя хлопцы, мы былі дрэннымі астраномамі. Ва ўсёй мігатлівай жарстве, што асыпала нашу высокую столь, мы пазнавалі перш за ўсё Вялікую Мядзведзіцу. Яна была ў нас заўсёды па левай руцэ, а трошкі правей ад Зараніцы быў родны наднёманскі край. Туды цягнула нас, як цягне стрэлку компаса на поўнач.

...Дзесятай ночы мы прабіраліся па абшары памешчыцкай бульбы. Ішлі амаль да пояса мокрыя; ногі спатыкаліся на барознах, блыталіся ў густым бульбяніку і непрыемна ныլі пад каленьмі. У грудзях таксама нешта балюча ныла — ці то з сярэдзіны, ці то зверху. Цярплівасці мы назапасілі няімала, але ўсё-ж час ад часу хацелася крыкнуць: «А ліха-ж вам з вашаю бульбай, праклятыя юнкеры!..»

Досвіткам напаткалі на ўскраіне лесу нейкую самотную адрыну, а ля яе вялізны шэры стог старой саломы. Спакуса была вялікая. Каторы ўжо дзень мы то моклі ў кустах пад дажджом, то ад зямлі нацягвалі холадам. Асцярожна і з таго боку, дзе стог амаль упрытык туліўся да сцяны адрыны, мы залезлі на саламяную вышыню, выграблі бярлогу і ляглі. Мікола, як заўсёды, забяспечыў маскіроўку. Пасля ён прытуліўся да мяне і, засынаючы я чуў ягоны шэпт і адчуваў шчасліва роднае сяброўскае цяпло.

Калі я прачнуўся, сонца стаяла яшчэ ўсё высока. Праз салому, якой Мікола прыцярушыў наша гняздо, праменні яшчэ даставалі нас. Першым пачуццем, з якім я ўбачыў іх, была тая самая злосць на доўгі, бясконца доўгі жнівеньскі дзень. Грудзі нацягнуліся сухога і горкага саламянага пылу, і так хацелася выбрацца наверх, ісці. Ды яшчэ было рана, а хлопцы спалі. І я маўчаў.

Неўзабаве здалёк дайшоў гудок паравоза, а потым усё бліжэй пачулася грукатанне вагонных колаў.

— Цягнік, — шапнуў побач са мной Мікола.
— А ты не спіш ужо?
— Даўно.
— І ўсё думаеш?
— Думаю.

Пра што ён думае, я не пытаюся: думаем мы, як відаць, пра адно. Гэта быў жнівень сорак першага года.

Працяг будзе

